№2 (185)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Студзень 2015 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Золатавалютныя рэзервы Беларусі за снежань скараціліся на $760 млн.**

Цяпер яны складаюць крыху больш за 5 млрд долараў.

У снежні 2014 года адбылося чарговае скарачэнне золатавалютных рэзерваў Беларусі. У адпаведнасці з метадалогіяй Міжнароднага валютнага фонду іх стала менш у нашай краіны на 760,8 млн долараў. На 1 студзеня 2015-га ЗВР склалі 5 млрд 59,15 млн долараў.

Нагадаем, што знешні дзяржаўны доўг Беларусі на 1 снежня 2014 года складаў 12 млрд 800 млн долараў. Сёлета наша краіна павінна выплаціць па ўнутраных і знешніх дзяржаўных абавязацельствах больш за 4 млрд долараў. Прыблізна 3,1 млрд долараў неабходна будзе пералічыць у кошт пагашэння і абслугоўвання знешняга дзяржаўнага доўгу.

### У Прыдняпроўі

**Генпрокуратура проверила сельхозпредприятия Могилевщины: пьянство, миллиардные убытки, отсутствие дисциплины.**

15 сельскохозяйственных предприятий Могилевской области сработали с убытком в 180 млрд рублей. В Быховском, Климовичском, Кличевском, Кричевском, Чаусском районах снижается поголовье крупного рогатого скота.

### У раёне

**Згодна афіцыйных дадзеных бялыніцкіх статыстыкаў**, сярэдняя заработная плата па народнай гаспадарцы Бялыніцкага раёна ў лістападзе 2014 года склалася на ўзроўні 5 220,3 тысяч рублёў.

Па дадзеных інтэрнэт-сайта Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь па стане на 14.01 2015 г. у Бялыніцкім раёне налічвалася 16 свабодных вакансій з 19 вольнымі працоўнымі месцамі. Заробкі, якія прапаноўваліся на гэтых працоўных месцах – ад 1 120 818 да 2 734 200 рублёў.

# МІКАЛАЙ ЮРКОЎ: ПРА ТЫХ, КАМУ ПАРА ЎКЛЮЧЫЦЬ МАЗГІ

***Апошнім часам наша ўлада стала надаваць шмат увагі людзям, якія нідзе не працуюць.***




І гэта слушна. Толькі мне не зразумела – увесь час чую, што ў нас беспрацоўе на мяжы статыстычнай памылкі, а тут раптам высвятляецца, што ўлада налічыла аж каля паўмільёна дармаедаў. Нам кажуць, што яны нічога не робяць, а толькі паразітуюць на здаровым целе нашай дзяржавы.

Я жыву на вёсцы і бачу ўсё знутры. У мяне узнікаюць пытанні – хто гэтыя людзі? За што жывуць? Якія страты прыносяць грамадству? Хацелася б гэтую з'яву неяк для сябе высветліць.

На маю думку, беспрацоўных у нас можна ўмоўна падзяліць на дзве катэгорыі. Першая і значна большая па колькасці – шабашнікі, якія працуюць у Расіі. Іх можна зразумець – карміць свае сем'і за капейкі, якія плаціць наша краіна, вельмі цяжка. Таму я б не сказаў, што яны такія ўжо крывасмокі. Усё ж гэтыя людзі прывозяць за месяц прыкладна каля тысячы даляраў заробкаў, якія потым трацяць у Беларусі. Не плацяць падаходны падатак? Так. Але ж, зрабіўшы пакупак на дзесяцьпятнаццать мільёнаў, даюць бюджэту больш прыбытку, чым даярка са свае зарплаты ў два-тры мільёны.

На мой погляд, гэта яны могуць нашай дзяржаве выстаўляць прэтэнзіі. Чаму, каб атрымаць годны заробак, хлопцы павінны ехаць далёкім-далёка, жыць у чужой краіне без сем'яў, без прававой і сацыяльнай абароны, працуючы там дзень і ноч? Чаму ў сваёй краіне гэтыя людзі не могуць зарабіць тыя ж грошы?

На сваім вопыце, як былы кіраўнік немалой гаспадаркі, я прыйшоў да высновы – заробак працаўніка залежыць ад разумнага кіраўніцтва на ўсіх узроўнях. Калі якасць працы рабочага ацэньваецца трываласцю, прыгажосцю і г.д. выпрабленага прадукта, напрыклад, то мастацтва кіраўніка ў тым, каб сем'і падначаленых былі сытыя. Іншымі словамі, кожны кіраўнік павінен умець арганізаваць працу сваіх працоўных такім чынам, каб іх заробак быў годны. Інакш ніякія "жэстачайшыя" захады не дапамогуць.

Калі параўнаць эфект працы нашага кіраўніцтва з гэтага пункту гледжання нават з расійскім, то вынік не на нашу карысць.

Другая катэгорыя – сапраўды ёсць

*(Працяг на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## БЕЛЫНИЧАНИН ПЫТАЛСЯ ОГРАБИТЬ МАГАЗИН

***3 января 2015 года в оперативно-дежурную службу Могилевского РОВД в 00.57 поступило сообщение о сработке сигнализации в магазине РайПО в д.Софиевка Могилевского района. На место выбыл наряд РОВД в составе оперуполномоченного и милиционера-водителя.***

В 01.13 при осмотре здания магазина сотрудниками были установлены следы взлома, а на прилегающей территории в кустах обнаружен неизвестный мужчина.

При задержании данный мужчина стал высказывать угрозы применения насилия в адрес оперуполномоченного РОВД и бросился на него с топором. Сотрудник милиции, в соответствии с требованиями законодательства, защищаясь и пресекая противоправные действия нападавшего, произвел несколько предупредительных выстрелов из табельного оружия ПМ.

В связи с тем, что мужчина, не смотря на законные требования, продолжил свои противоправные действия, оперуполномоченный произвел один прицельный выстрел из табельного оружия, чем причинил нападавшему огнестрельное ранение левого коленного сустава. Последний госпитализирован и задержан по ст.108 УК Республики Беларусь. Задержанным оказался неработающий, ранее неоднократно судимый, житель Белыничского района,1968 г.р.

3 января Могилевским межрайонным отделом СК в отношении указанного лица возбуждено у/д по ст. 364 УК Республики Беларусь. В настоящее время проводятся иные следственные действия и необходимые экспертизы, направленные на установление всех обстоятельств произошедшего, сообщает интернет-сайт УВД Могилёвского облисполкома.

По состоянию на 1.10.2015 г. на учете в управлении по труду, занятости и социальной защите Белыничского райисполкома состоит 6846 получателей пенсий и пособий, в т.ч. 32 ветерана Великой Отечественной войны, 238 многодетных семей, 719 неполных семей.

## ПРА ТЫХ, КАМУ ПАРА ЎКЛЮЧЫЦЬ МАЗГІ

*(Працяг. Пач. на стар. 1)*

абібокі. Але зноў жа просіцца пытанне. Што, у нашай сельскай гаспадарцы адны непітушчыя працуюць? Так ужо склалася, што ў якасці меры выхавання таго ці іншага раз-адразу звальняюць. А хто і неспадзявана зап'е. Што ў такім выпадку рабіць брыгадзіру? Прыходзіцца бегчы да такога вось "рэзервіста", які звольнены "па плану", і нечаканае "вакно" на тыдзень-другі закрыта.

Калі ўлічыць, што асноўныя жыхары зараз ў вёсках – нямоглыя і старыя, то такі "кантынгент" умоўна беспрацоўных тут – асноўныя памочнікі. Часам толькі на іх дапамогу і разлічваюць пенсіянеры. Атрымаўшы грошы за паколатыя дровы, папраўлены плот альбо яшчэ за якую сялянскую справу, такія памочнікі перш-наперш бягуць у краму за выпіўкай. І зноў жа – грошы атрымлівае дзяржава. Чаго-чаго, а "чарніла" ў невялічкіх сельскіх гандлёвых кропках заўсёды дастаткова.

На маё перакананне, з тымі, хто не жадае працаваць, рабіць нешта трэба. Але, зноў жа мне хочацца спаслацца на свой вопыт.

Калі я толькі прыйшоў на пасаду дырэктара саўгаса "Дрыбінскі", то ўзяўся за барацьбу з крадзяжамі. У той час я жыў па такім раскладзе: дзень кірую, ноч вартую. Але плёну ад такой справы было вельмі мала. Бачу, што ад вялікай стомы, у дзень працаваць належным чынам не магу. А без пэўнага гаспадарчага дагляду саўгас хутка мог прыйсці ў такі стан, што і красці будзе нечага. Дзякуй Богу, хапіла розуму прааналізаваць гэтыя выпадкі – хто крадзе, што крадзе і навошта. Атрымалася, што цягнуць сена, салому, камбікормы.

З першага ж укосу далі працаўнікам сена, але толькі пасля таго, як брыгада выканала свой план. Зараз нават цяжка паверыць, але сваякі сялян прыязджалі з гарадоў, каб дапамагчы хутчэй зрабіць норму і атрымаць худобе корм.

*(Заканчэнне на стар. 8)*

## БЕЛЫНИЧСКИЕ МУЗЫКАНТЫ ГРУППЫ "МІРНАЕ МОРА" РАБОТАЮТ НАД ЗАПИСЬЮ ДЕБЮТНОГО ДИСКА

***Совсем недавно ряды белорусского рок-сообщества пополнила еще одна музыкальная группа — «Мірнае мора». Авторами проекта стали известный музыкант из Белынич, лидер групп White Night Blues і Nestary Band Юрий Нестеренко и молодая, но очень талантливая и интересная исполнительница, автор песен и музыки Ирина Снопкова. Несмотря на то, что оба музыканта живут в Белыничах, познакомились они только этим летом.***

Ирина Снопкова родилась в деревне Ермоловичи Белыничского района. Училась в Могилевском университете продовольствия по специальности «инженер-технолог», окончила магистратуру. Писать песни девушка начала совсем недавно.

Уже на второй встрече с Юрой Нестеренко родилась идея создания группы, распланирована программа ближайших выступлений. Первое выступление «Мірнага мора» состоялось на концерте в ночь на Купалье, которое традиционно отмечается на Друти возле деревни Гута. В начале июля группа выступила в Молодечно.

В ноябре группа «Мірнае мора» записала свою первую песню под названием «Асцярожна пакрысе». Ее презентовали на сайте tuzin.fm, уже на второй день количество просмотров было более тысячи!

Сейчас музыканты вместе с барабанщиком Евгением Зверевым и звукорежиссером Денисом Манёнком работают над записью второй песни.

— Мы пока сами не знаем, что из этого проекта получится, в каком направлении будем двигаться дальше. Но нам нравится то, что мы делаем, нравится вместе работать, — говорит Юрий Нестеренко. — Лично мне этот проект интересен, прежде всего, продюсерской работой. Интересна Ира как молодой талантливый исполнитель. Мне радостно, что на моих глазах и с моей помощью у человека сбываются мечты.

***"Могилёвские ведомости"***

# ШТО ЧАКАЕ ЭКАНОМІКУ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ У 2015 ГОДЗЕ?

***На пачатку новага 2015 года прапаную правесці аналіз, як жа спрацавала Магілёўская вобласць за мінулы 2014 год, і што нас чакае ў бліжэйшай перспектыве.***

Лічбы і высновы, якія я прывяду далей, абапіраюцца толькі на статыстычныя дадзеныя за 9 месяцаў мінулага году, размешчаныя ў рэспубліканскіх СМІ. Статыстычныя дадзеныя па выніках працы за 12 месяцаў 2014 года яшчэ адсутнічаюць. Але ў параўнанні з 2013 г. яны будуць мала чым адрозніваца ад паказчыкаў за студзень-верасень, а калі крыху і зменяцца, то яшчэ больш - у горшы бок.




Згодна статыстычных дадзеных за 9 месяцаў мінулага году Магілёўская вобласць змінусавала амаль па ўсіх асноўных паказчыках. Так, аб'ём вырабленага валавога прадукту склаў усяго толькі 96,8% да адпаведнага перыяду 2013 году. Экспарт тавараў – 94%.

Нават у пытаннях спорту, па выніках гульні хакейных, футбольных каманд вобласці ў вышэйшых дывізіёнах краіны, Магілёўшчына мае найгоршыя паказчыкі за ўсе гады нашага стагоддзя.

Найгоршыя вынікі вобласць атрымала ў сельскай гаспадарцы, асабліва ў жывёлагадоўлі. Так, надой малака на 1 карову за 9 месяцаў 2014 года склаў 3173 кг малака, што на 56 кг меней чым за адпаведны перыяд 2013 года. Агульная вытворчасць малака за 9 месяцаў склала 540250 т, што адпавядае 98,8% да ўзроўню 2013 г.

Сярэнесуткавая прывага БРЖ - 555 гр., што меней на 26 гр. да 2013 г., свіней – 531 гр. – зніжэнне на 5 гр.

Вельмі страката выглядаюць паказчыкі па вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі сярод раёнаў Магілёўскай вобласці на фоне ўсіх 118 раёнаў Беларусі. Калі па надоях малака на 1 карову Кіраўскі раён увaходзіць у дзесятку лепшых па краіне з паказчыкам 4421 кг, то ў Краснапольскім гэты паказчык склаў 1848 кг (-139 кг да ўзроўню 2013 г.), а ў Крычаўскім - 1781 кг. Абодва гэтыя раёны ўвайшлі ў тройку аўтсайдэраў згодна рэспубліканскай выніковай табліцы . А Крычаўскі раён наогул заняў апошняе месца па краіне.

Бялыніцкі раён з паказчыкам 4204 кг на 1 карову займае 16 радок сярод раёнаў краіны, Магілёўскі – 38 месца (3665 кг), Шклоўскі толькі 52 месца (3438 кг). І гэта пры тым, што ў Шклоўскі раён на працягу апошніх 2-х дзесяткаў год для развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці накіроўваліся велізарныя фінансавыя сродкі. Па надоях малака Шклоўскі раён выглядае горш і Круглянскага раёна (44 радок), Клічаўскага (43), Горацкага (27).

Асабліва трывожная сітуацыя склалася ў свінагадоўлі. У 2014 годзе цалкам ліквідавана пагалоўе свіней ў "Амкадор-Шклоў" Шклоўскага раёна, хоць на пачатак года яно складала 2645 галоў. У сельгаспрадпрыемстве "Светлы" Чэрыкаўскага раёна ў верасні 2014 года заставалася толькі 7608 галоў свіней, што складае толькі 23% да 2013 года. У СПК "Антонаўскі" Чавускага раёна – 8574 гал. – 69% да 2013 г., "Племзавод "Леніна" Горацкага - 4650 – 40%. Агракомплекс "Огнеўскі" Слаўгарадскага - 13729, што адпавядае 56% да 2013 г. У "Палыкавічах" Магілёўскага - 6709 гал. – 80%.

І калі наконт зніжэння пагалоўя свіней мясцовыя ўлады шукаюць апраўданне праз наяўнасць у вобласці АЧС (афрыканскай чумы свіней), то чым можна апраўдаць правалы на комплексах па вырошчванню і адкорму буйной рагатай жывелы?

Так, у ААТ "Александрыйскае" Шклоўскага раёна на 01.10.2014 года знаходзілася 2469 галоў БРЖ, што да адпаведнага перыяду 2013 г. склала толькі 87%. У ЗАТ "Славені" гэтага ж раёна 3030 гал. – 86%. СВК "Звезда-Агра" Крычаўскага – 1838 гал. – 67%, СВК "Следзюкі" Быхаўскага - 2570 – 53%. І г.д.

Правал у эканоміцы вобласці праглядаецца ў першую чаргу з-за адсутнасці сістэмнага падыходу ў падборы кадраў. Гэта нават прызналі ўдзельнікі нарады, што праводзілася ў Магілёве ў час наведвання Аляксандрам Лукашэнка Магілёўшчыны 5 лістапада 2014 года.

У звяку з гэтым ім і было прынята рашэнне па замене старшыні Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэту. Але ці дасць станоўчыя вынікі замена кіраўніка вобласці?

На маю думку – не. Бо без наладжвання сістэмнага падыходу ў падборы і падрыхтоўцы кадраў, без рэфармавання эканомікі, зменаў да лепшага не адбудзецца. У 2015 годзе нас чакае далейшае пагаршэнне сітуацыі ў эканоміцы вобласці, асабліва ў сельскай гаспадарцы - вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі. На працягу 2015 году нават не ўдасца аднавіць неабходны узровень пагалоўя жывёлы, каб атрымаць станоўчыя вынікі па аднаўленні аб'ёмаў вытворчасці.

***Рыгор Кастусёў***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЧТО ДВИЖЕТ СОВРЕМЕННЫМ ЧИНОВНИКОМ?

***Недавно зашел к районному чиновнику с небольшой инициативой по вопросам городской жизни. Услышав моё предложение, государственный служащий, с лицом, не терпящим возражения, постарался избавиться от меня, сославшись на занятость.***




Наверно многим гражданам известно немало примеров, когда чиновники не только не стремятся поддержать какую-то либо инициативу «с низов», а даже наоборот, делают всё чтобы её сразу пресечь. Вот только несколько примеров. В Могилёвской области в начале 2000-х годов возникла гражданская инициатива «Асацыяцыя краязнаўцаў малых мястэчак Магілёўшчыны». Краеведы с районных городков и сельской местности один раз в год проводили в одном из районов краеведческие чтения. При этом от государства не требовали никаких материальных затрат на их проведения. Единственное, о чём просили краеведы у чиновников, предоставить им помещение при проведении очередной встречи. Поначалу, такие встречи прошли в Белыничах, Краснополье, Климовичах и в Шклове.

Движение, направленное на изучение своего прошлого и настоящего ширилось, вовлекая в свои ряды новых исследователей своей Малой Родины. Но в дальнейшем, обратившись с аналогичным предложением к руководству Осиповичского района, краеведы получили отказ на проведение таких чтений. Хорошая и востребованная инициатива, в лице государства, не была поддержана и в скорости погибла.

Общественность Шклова неоднократно обращалась с инициативой к местной власти с предложениями об более эффективном использовании главного историко-культурного бренда города – комплекса бывшей городской ратуши. Однако ни одно из предложений до настоящего времени чиновниками не реализовано.

Шкловская районная организация общества белорусского языка обратилась в райисполком с предложением присвоить одной из новых улиц города имя писателя Міхася Зарэцкага, чьё детство прошло в пригороде Шклова – инициатива полностью проигнорирована.

История знает примеры, когда инициатива вообще наказуема или может крайне отрицательно повлиять, например, на производственную деятельность. Ветераны одного из предприятий Шклова вспоминают как после приезда в коллектив высокопоставленного чиновника из Минска, руководитель, вместо того, что бы направить дальнейшую работу коллектива на устранение отмеченных при посещении недостатков, почти неделю, в «самых горячих тонах» проводил дознание среди своих подчинённых на предмет одной «пикантной» инициативы.

А случилось следующее. В завершении рабочего дня, по приглашению данного руководителя, минский чиновник согласился поужинать «на природе». Когда, по словам известного артиста Владимира Высоцкого, «веселье дошло до точки», кто-то из участвующих в данном ужине, предложил: «давайте прыгать через костер». И случилось самое непредсказуемое – именно высокопоставленный чиновник данное физическое упражнение совершил не совсем надлежащим образом и приземлился прямо в костёр. Весьма очевидно, что чиновник очень уж был «уставший».

Поднялся страшный переполох со всеми вытекающими последствиями. С этого момента и в течение последующих нескольких дней, ни о каком производственном процессе участвующая в ужине свита и думать, не могла. Но и выявить инициатора «языческого обряда», так и не удалось. «Свита» своего не сдала. Но ведь подобные или почти подобные явления по-прежнему имеют место в нашей жизни.

А теперь представьте себе ситуацию, когда вы приходите к чиновнику не с инициативой, а уже с личной «большой» просьбой. И чиновник приветлив, и обещает обязательно помочь, но при этом объясняет, что решение данного вопроса требует многих усилий и даже при этом он (чиновник) лично рискует своей должностью.

Так что же движет современным чиновником и что же творится у него в голове? Для любознательного социолога такой трудный объект, как бюрократ начала XXI в., — что красная тряпка для быка. Литературный герой Акакий Акакиевич, несомненно, отличается от чиновника нашего времени. Старый чиновник и непрофессионал, и взятки брал слишком «нахраписто». Нынешний бюрократ играет в команде. Главное, что удерживает его от самодеятельности, — лояльность шефу и страх, что ошибкой воспользуются конкуренты, чтобы вытеснить его лично с занятых позиций. Общественное мнение, пресса, бизнес в глазах современного чиновника только инструменты и самостоятельной силы не имеют.

*(Окончание на стр. 5)*

## ЧТО ДВИЖЕТ СОВРЕМЕННЫМ ЧИНОВНИКОМ?

*(Оконч. Начало на стр. 4)*

Обследование делового климата в европейских государствах, спонсированное Всемирным банком, показало, что коррупция становится все более серьезной помехой для ведения бизнеса в соседней России: в 2002 г. она была препятствием для 30% предприятий, а в 2005 г. — для 40%. Думается и Беларуси, коррупция становится так же всё более серьёзной помехой.

Почему они так скверно работают? Ведь если чиновники некомпетентны, плохо мотивированы, масштабных провалов государства не избежать. Совремённые исследования показывают, что отличительная характеристика современной бюрократии — «командность». Сейчас своя команда есть не только у президентов, но и у руководителя любого уровня, включая самого последнего звена. С развалом СССР номенклатурные связи порвались, состав бюрократии сильно обновился. Типичный чиновник предыдущего десятилетия был индивидуалистом и злоупотреблял на свой страх и риск.

Но индивидуальные предприниматели на госслужбе вымерли, как динозавры. Вместе с экономической стабилизацией «устаканилась» и бюрократия, где сегодня доминирует командный принцип коррупции, а низшая форма взятки — налом — практикуется все реже. Грязную работу делают подчиненные, на что шеф, заинтересованный в лояльности нижестоящих, в самом приличном случае смотрит сквозь пальцы. Берут низшие, а высшее руководство, как выразился один респондент, «витает в качестве предпосылки"».

Ограничить аппетиты одной команды способна только другая, конкурирующая группа чиновников. Актуальные в других странах внешние сдержки и противовесы — закон, общественное мнение, пресса, бизнес — для нашей бюрократии просто не существуют. Точнее, существуют не как сдержки, а как инструменты.

Общественное мнение — тоже мираж. А какие-то слухи, сплетни, которые распространяются на неформальном уровне, — это не являлось и не является фактором страха для чиновников. Мнение общества, какая-нибудь статья в прессе, даже весьма конкретная, на судьбе чиновника почти не отражаются. Напишет какая-нибудь газета, особенно «нехорошая», что этот человек взяточник, — ну и что? Он как работал, так и работает».

Инициатива снизу вообще никак не учитывается. Индивидуальная инициатива называется жалобой. Да, теперь у народа нет повода для массового недовольства, поэтому любые "протестники" в глазах чиновника — это или хулиганы, или подкупленная массовка.

Самоупоение чиновничества не способны поколебать и представители бизнеса. Предприниматели зависят от государства и сами напрашиваются на сотрудничество. Ведь взятки не просят, их «предлагают». Бюрократия в первую очередь заинтересована в постоянном увеличении своего влияния и богатства.

Система «окуклилась» и нацелена только на самовоспроизведение. Привести в чувство самодостаточную бюрократию способно только появление сильных противовесов в виде свободной прессы, независимых судов и верховенства закона. Эти основные истины должны созреть в сознании всего нашего общества. В противном случае всё будет по-прежнему.

***Александр Грудино***

## Мікалая Статкевіча перавялі з магілёўскай турмы ў шклоўскую калонію

Экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч пераведзены з магілёўскай турмы №4 у шклоўскую калонію №17. Пра гэта агенцтву БелаПАН паведаміла яго жонка Марына Адамовіч.

Па яе словах, Статкевіч быў этапаваны 12 студзеня. Палітыка вярнулі ў Шклоў, адкуль тры гады таму яго перавялі ў турму.

Нагадаем, што за Плошчу-2010 Статкевіч быў асуджаны на шэсць гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні ў арганізацыі масавых беспарадкаў.

## У МАГІЛЁВЕ АБМЯРКОЎВАЛІ ПРАБЛЕМУ КАРУПЦЫІ

***У Магілёве 11 студзеня адбыўся чарговы круглы стол, прысвечаны праблемам карупцыі, стану эканомікі і рэфармаванню сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у Магілёўскай вобласці.***




Сустрэча прайшла ў памяшканні грамадскага цэнтра "Кола", арганізавалі мерапрыемства Выдавецкі цэнтр Магілёўскай рэгіянальнай кааліцыі дэмакратычных сіл і сябры ГА "БАЖ" Магілёўскай вобласці. Удзел у круглым стале ўзялі журналісты і грамадскія актывісты з розных рэгіёнаў Магілёўшчыны, у якасці экспертаў выступалі спецыялісты ў галіне сельскай гаспадаркі. Усяго ў сустрэчы прыняло ўдзел больш за 20 чалавек.

Падчас сустрэчы эксперты зрабілі аналіз прычын росту карупцыйнай злачыннасці на прыкладзе розных раёнаў Магілёўскай вобласці, а таксама выказалі сваё гледжанне на стан эканомікі і праблемы рэфармавання сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Магілёўшчыны.

Кандыдат эканамічных навук Пётр Мігурскі засяродзіў увагу прысутных на тым, што тэма карупцыі патрабуе пастаяннай увагі і сістэмнай працы з боку грамадскасці, бо гэта з'ява мае глабальныя наступствы для нацыянальнай эканомікі. Не такая "бяскрыўдная" карупцыя і на рэгіянальным узроўні – з "дапамогай" недабрасумленных чыноўнікаў рэалізуюцца неэфектыўныя інвестыцыйныя праекты, дэфармуецца структура дзяржаўных расходаў, дэзынфармуецца вертыкаль улады, зніжаюцца даходы законапаслухмяных грамадзян. Пётр Сцяпанавіч выказаў меркаванне, што

*(Заканчэнне на стар.8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА Ў СВЕЦЕ

***У летні час чалавек заўсёды робіць разнастайныя вандроўкі. У невялічкім гарадку асабліва гэта бачна па шамлікіх сустрэчах "былых аднакласнікаў". Людзі збіраюцца ў сваёй школе, запрачаюць па-магчымасці сваіх былых настаўнікаў і амаль да самага позняга часу ўспамінаюць сваё юнацтва. Збіраюцца былыя навучэнцы школы з  разнастайных куткоў Беларусі, блізкага і нават далёкага замежжа. На такіх сустрэчах заўсёды у суразмоўцаў выклікае цікавасць "як склаўся лёс былога сябра?" і тым больш "чаму ён трапіў за мяжу і як там уладкаваўся?" Дык як жа жыве беларуская дыяспра сёння?***



Слова "дыяспара" ўзятае з грэцкае мовы і абазначае частку народу, якая жыве па-за межамі сваёй айчыны. Беларуская дыяспара жыве амаль ва ўсім свеце. У некаторых краінах вялікімі грамадамі, у іншых - амаль адзінкамі. Вялікая колькасць беларусаў у сучасны момант пражывае ў наступных краінах свету: ЗША, Канадзе, некаторых краінах Паўднёвай Амерыкі, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Францыі, Бэльгіі, Галяндыі, Іспаніі, Італіі, Швейцарыі, Нямеччыне, Аўстрыі, Чэхіі, Польшчы, Балгарыі, Летуве, Латвіі, Эстоніі, у краінах Скандынавіі, Расеі, Украіне і шэрагу іншых краінаў былога СССР. Усяго за межамі Беларусі сёння жыве больш за тры мільёны беларусаў і іх нашчаткаў.

У 16-ці з гэтых краінаў беларуская дыяспара мае свае арганізацыі і ўстановы. У 14-ці з іх жывуць сябры Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэтых краінах праводзяць сваю дзейнасць дзесяткі розных арганізацый і ўстаноў. Сярод іх ёсць грамадзкія, палітычныя, культурна-асветныя, навуковыя, выдавецкія, камунікацыйныя, арганізацыі моладзі і студэнтаў, розныя фонды і фундацыі, рэлігійныя ўстановы розных веравызнанняў і юрысдыкцыяў, дабрачынныя ўстановы ды дзесяткі, калі ня сотні, прадпрыемстваў, уласнікамі якіх альбо кіраўнікамі з'уляюцца прадстаўнікі беларускай дыяспары.

Інтэлектуальны капітал выхадцаў з Беларусі на сучасны момант вельмі значны. Навукова-культурнымі цэнтрамі эміграцыі сталі Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (з 1951 года), такі ж інстытут у Канадзе (1967), Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане (1971), Інстытут беларусаведы ў Ляймене (Германія). Многія замежныя універсітэты маюць беларускія аддзяленні, факультэты, кафэдры беларускай мовы і літаратуры. Душпастарскую місію на эміграцыі выконваюць Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, Беларуская праваслаўная царква ў канстанцінопалькай юрысдыкцыі і Беларуская каталіцкая місія.

Найбольш папулярным перыядычным выданнем беларусаў у замежжы з'яўляецца газета "Беларус". Яе першы нумар выйшаў 20 верасня 1950 году ў Нью-Йрку. Выданне працуе ў цесным кантакце з грамадскім аб'яднаннем "Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне" (БАЗА) і зрабілася фактычна трыбунаю не толькі для беларусаў Паўночнай Амерыкі, а ўвогуле беларусаў замежжа. Газета асвятляе навіны з жыцця беларускай дыяспары, змяшчае паведамленні і аналізы падзеяў у Беларусі і ў свеце, нарысы беларускай гісторы, гісторыі беларускай эміграцыі, творы беларускіх пісьменнікаў, успаміны, некралогі, а таксама аб'явы і абвесткі з бягучай дзейнасці БАЗА ды іншых беларускіх арганізацый.

Газета зрабілася летапісам паваеннай эміgranцкай дзейнасці і сведкам прыходу новага пакалення беларусаў Амерыкі. Некролагі ў газеце – своеасаблівы (хоць і сумны) даведнік "Хто быў хто" ў беларускай эміграцыі, і каштоўная крыніца для будучых гісторыкаў.

Рэдактарамі газеты ў розныя часы былі такія вядомыя фігуры грамадзкага і культурнага жыцця беларусаў, як Леанід Галяк, Лявон Савёнак, Міхась Міцкевіч, Наталля Арсеннева, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Станкевіч, Янка Запруднік, Зора Кіпель. З газетаю супрацоўнічалі, бадай, усе беларускія літаратары і культурнікія дзеячы на выгнанні ў другой палове 20-га стагоддзя. Вялікую дапамогу ў выданні газеты ў канцы 1990-х аказалі Лявон Юрэвіч і Зміцер Саўка. З 2002 года, дзякуючы працы рэдактара М. Клакоцкага, таксама пачалі выдаваць календары і літаратурны альманах "Беларус".

Будучыня газеты, што мае ўжо досыць салідны і паважаны для эмігранцкага выдання ўзрост, залежыць ад новага пакалення беларусаў і здольнасці пераняць традыцыю ахвярнай працы ўсіх папярэдніх рэдактараў "Беларуса". Кантакты з газетай "Беларус": http://www.bielarus.org.

Пачынаючы 1990 года дзейнічае згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". У ліпені гэтага года ў Мінску прайшоў чарговы шосты па ліку з'езд гэтай арганізацыі. Удзел у з'ездзе ўзялі 254 дэлегаты. На мерапрыемсве прысутнічаў мініст культуры Барыс Святлоў. Навукоўцы аб'ядналіся ў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, створанай ў маі 1991 года.

Увесь свет ведае беларуса па паходжанні, буйнага спецыяліста ў галіне астранаўтыкі Барыса Кіта. Значным ўклад у развіццё беларускай навукі і культуры зрабілі навукоўцы Уладзімір Сядура (Глыбінны), Антон Адамовіч, Вітаўт Тумаш, Павел Урбан, Вітаўт Кіпель, Зора Кіпель, айцец Аляксандр Надсан, знакаміты тэнар Міхась Забейда-Суміцкі, кампазітар Мікола Равенскі, паэты Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Алесь Салавей (сапраўднае Альфрэд Радзюк). У Польшчы на карысць беларускай і польскай культуры шмат зрабілі пісьменнік Сакрат Яновіч, мастак Лёнік Тарасевіч, гісторык Юрый Туронак.

І, безумоўна, кожны жыхар Бялынычскага раёна таксама можа дадаць новыя імёны вабітных нашых землякоў па волі лёса якія апынуліся па-за межамі роднай Беларусі.

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# НА ЗАМЕТКУ НОВАМУ СТАРШЫНІ МАГІЛЁЎСКАГА АБЛВЫКАНКАМА

***25 лістапада 2014 года Прэзідыум Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь разгледзеў пытанне "Аб выкананні даручэнняў кіраўніка дзяржавы і Урада па аднаўленні аб'ёмаў вытворчасці свініны". На пасяджэнні былі заслуханы справаздачы старшынь аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама, даклад намесніка прэм'ер-міністра М.Русага.***



***Рыгор Кастусёў***

Нездавальняючай была прызнана работа Магілёўскай вобласці, дзе вытворчасць свініны за 10 месяцаў 2014 года склала 27,8 тыс. тон, або ўсяго толькі 79,6% да адпаведнага перыяду мінулага году.

Што ж такое здарылася на Магілеўшчыне, бо ў развіццё свінагадоўчай галіны тут за апошнія гады укладзены аграмадныя фінансавыя сродкі?…

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 05.05. 2011 г. за №568 "Аб Рэспубліканскай праграме рэканструкцыі, тэхнічным пераабсталяванні і будаўніцтве комплексаў па вырошчванні свіней у 2011-2015 гадах" з агульным фінансаваннем па краіне ў 10059,4 млрд.рублей, у планы рэканструкцыі і будаўніцтва былі ўключаны і шэраг аб'ектаў на Магілёўшчыне.

Толькі, напрыклад, у сельгаспрадпрыемстве "Племзавод "Леніна", Горацкага раёна з 2011 па 2013 гады згодна Праграмы было рэканструявана 6,9 тыс. скатамесцаў, што павінна было даць шырокія магчымасці для нарошчвання вытворчасці свініны.

Па выніках жа працы за 9 месяцаў 2014 г. у гэтай гаспадарцы атрыманы валавы прырост у жывой масе 563 тоны, што ў адносінах да адпаведнага перыяду мінулага году складае толькі 70%. Нават сярэднесутказая прывага на 1 гал. скарацілася на 73 грамы. Амаль удвая адбылося скарачэнне пагалоўя свіней, якое на пачатак лістапада 2014 года складала 4650 галоў.

Галоўнай прычынай правалаў у свінагадоўлі, магілёўскія чыноўнікі называюць АЧС (афрыканскую чуму свіней), якая ў значнай ступені выкасіла пагалоўе свіней у вобласці. Але, як запэўнівала кіраўніцтва Магілёўшчыны ў час правядзення лістападаўскага пасяджэння Прэзідыума Савета Міністраў, у вобласці прынятыя ўсе неабходныя меры каб ліквідаваць эпідэмію і аднавіць вытворчасць свініны…

У сярэдзіне снежня 2014 года мне ўдалося пабываць у вышэй згаданай гаспадарцы, паразмаўляць з працаўнікамі, увачавідкі пераканацца ў "праўдзівасці" гэтых словаў па мерах прынятых на свінагадоўчым комплексе, што месціцца на ўскрайку аграгарадка Леніна.

Па першых уражаннях падаецца, што і сапраўды ў гаспадарцы прынятыя ўсе небходныя захады, каб зліквідаваць наступствы эпідэміі і аднавіць пагалоўе. Як распавялі працаўнікі гаспадаркі, на комплексе ўведзена штучнае асемяненне свінаматак, прыняты меры па недапушчэнню прахода на тэрыторыю пабочных асобаў, наладжана праца па пастаўцы чыстых кармоў… Нават птушкі не могуць праляцець над дадзенай тэрыторыяй, бо іх распалохвае гук "хлапушкі" падобны на гук стрэльбы. Праязджаючым па аўтадарозе побач з комплексам адразу кідаецца ў вочы добротная агароджа з надзейна зачыненымі варотамі і брамкай.

Але ж, прыгледзеўшыся больш уважліва, можна заўважыць, што чароды галубоў, не баючыся гэтых "стрэлаў", спакойна лятаюць над будынкамі комплекса, сядзяць на іх дахах. А агароджа ўжо і не такая добротная, як падаецца на першы погляд, і ўсталявана яна з парушэннямі, бо пад яе можа пралезці не тое што пацук, а і невялікі вяпручок.

А пахадзіўшы вакол комплекса, і прыгледзеўшыся больш уважліва, можна пераканацца, што "добротная" агароджа пастаўленая з боку аўтадарогі, усталявана толькі з мэтай "замыльвання" вачэй вышэйстаячага начальства і самасупакойвання мясцовага кіраўніцтва. Бо з супрацьлеглай стараны яна амаль зусім адсутнічае.

Пасля ўбачанага ў "Леніна", міжволі ўзнікае пытанне, а як жа праведзена рэканструкцыя на іншых свінагадоўчых коплексах Магілёўскай вобласці? Як асвоены фінансавыя сродкі выдзеленыя на гэтыя мэты?

Калі такім жа чынам, то можна ўпэўнена казаць, што яшчэ доўгі час пагалоўе свіней у вобласці не будзе адноўлена, і падзенне вытворчасці свініны яшчэ ўсё будзе працягвацца.

А можа быць новаму кіраўніку вобласці ўдасца "размыліць" вочы? І не толькі свае, ды і іншым.

Пажывем, пабачым.

***Рыгор Кастусёў***

## БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА Ў СВЕЦЕ

*(Заканч. Пачатак на стар.6)*

Гэта магутны чалавечы і арганізацыйны рэсурс. Часткі яго розняцца сваёю важнасцю, сваімі поглядамі, даўжынёю свайго існавання, некаторыя нават варожыя між сабою, аднак лучыць іх адно - гэта жаданне бачыць Беларусь незалежнаю і свабоднаю дзяржаваю. Гэта тыя людзі і арганізацыі, якія патрэбныя, каб працаваць на росквіт нашай Бацькаўшчыны на дзяржаву Беларусь. Просім прысылаць такія дадзеныя на адрас нашай газеты. Нагадваем, што погляды і меркаванні, выказаныя ў артыкулах, належаць выключна іх аўтарам, і не абавязкова супадаюць з пазыцыяй рэдакцыі.

***Рэдакцыя газеты "ПАХОДНЯ"***

## Анекдот дня

— Специалисты говорят, что наш народ стал жить лучше.

— А люди утверждают, что ничего не ощущают.

— Но ведь они же не специалисты...

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## УСПАМІНЫ ПРА ВАЛЯНЦІНА ЕРМАЛОВІЧА

***У выдавецтве "Кнігазбор" выйшла кніга ўспамінаў пра тэатральнага рэжысёра, акцёра, педагога, заслужанага работніка культуры Беларусі Валянціна Ермаловіча (1925-2004). Кніга мае назоў "Ачышчэнне душы".***

Валянцін Ермаловіч усё пасляваеннае жыццё пражыў у Магілёве, доўгі час працаваў у Бялынічах. Ён скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, быў акцёрам Пінскага (1950-1954) і Магілёўскага (1954-1956) абласных драматычных тэатраў, выкладчыкам Магілёўскага вучылішча культуры (1956-1985).

Адначасова кіраваў Магілёўскім народным тэатрам Палаца культуры завода штучнага валакна (1961-1969), тэатральным калектывам медыцынскіх работнікаў Магілёўскай абласной псіхіятрычнай бальніцы (1971-1977), Краснапольскім народным тэатрам (1978-1992), рэжысёрам Бялыніцкага народнага тэатра юнага гледача (1993-1998), а з 1992 года быў кіраўніком народнага тэатра "Валянцін" Магілёўскага гарадскога Цэнтра культуры і вольнага часу.

Валянцін Ермаловіч шчыра любіў Беларусь, усё жыццё размаўляў толькі на роднай мове. Калі яго родны брат Мікола Ермаловіч сваё жыццё звязаў з гісторыяй Беларусі, то Валянцін Ермаловіч – з тэатральным мастацтвам.

У кнігу успамінаў пра Валянціна Ермаловіча ўвайшлі згадкі пра гэтага таленавітага чалавека. І да гэтай памяці далучыліся былыя сябры і вучні не толькі з Магілёва, дзе ён жыў і працаваў, а таксама з Менску, Слоніма, Бялынічаў, Краснаполля. Праўда, пра Валянціна Іванавіча маглі б успомніць сотні людзей, якія яго ведалі, якіх ён вучыў, з кім працаваў. І магчыма кніга "Ачышчэнне душы" стала толькі першай ластаўкай успамінаў пра яго.

Шчыра пра беларускага тэатральнага рэжысёра і педагога ўспамінаюць Людміла Рублеўская, Віктар Шніп, Міхась Карпечанка, Сяргей Чыгрын, Мікола Яцкоў, Лілія Кузьменка, Яраслаў Клімуць, Міхась Булавацкі, Ігар і Таццяна Пушкіны, Віктар Арцем'еў і іншыя асобы. Кнігу ўклалі, напісалі прадмову і знайшлі фундатараў Міхась Карпечанка з Бялынічаў і Сяргей Чыгрын са Слоніма.

Прэзентацыі кнігі ў Бялынічах, Магілёве і Краснаполлі запланаваныя ў пачатку 2015 года.

***Барыс Баль. Беларуская Радыё Рацыя***

## ПРА ТЫХ, КАМУ ПАРА ЎКЛЮЧЫЦЬ МАЗГІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1, 2)*




Прыкладна так было і з саломай, і з камбікормам. Калі гаспадарка збірае сем-восем тысяч тон збожжа ў год, даць каля тоны зерня на хату (каму трэба) – гэта страты для дзяржавы зусім не вялікія. І красці амаль што перасталі, ва ўсялякім разе маштабы сталі ўжо зусім не тыя.

Так што адным бізуном справу занятасці насельніцтва не вырашыць. Кожная гаспадарка, установа, вытворчасць павінны мець столькі працоўных, колькі яна зможа пракарміць. А так што атрымліваецца?

Беспрацоўя няма (па афіцыйных звестках), а "бічы" ёсць. Дык можа нашым кіраўнікам трэба адкінуць бізун і ўключыць нарэшце мазгі? Становішча па гэтым пытанні ў краіне сапраўды сур'ёзнае.

***Мікалай Юркоў, дырэктар СВК "Дрыбінскі" (1973-2001 г.г.)***

## У МАГІЛЁВЕ АБМЯРКОЎВАЛІ ПРАБЛЕМУ КАРУПЦЫІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

карупцыйныя злачынствы шмат у чым правакуюцца існуючай сістэмай улады ў краіне і прывёў канкрэтныя сведчанні гэтага на прыкладзе Шклоўскага раёна. У прыватнасці, спадар Мігурскі спыніўся на тым, што ў Шклове па-ранейшаму практыкуецца практыка прызначання на пасады раней асуджаных чыноўнікаў, а таксама пра чарговыя карупцыйныя скандалы ў кіраўніцтве Шклоўскага раёна (былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама Дзмітрый Мінянкоў асуджаны да 14 гадоў пазбаўлення волі за крадзёж сродкаў на закупку жывёлы ў памеры 4,2 млн. еўра, іншы намеснік старшыні райвыканкама Яўгеній Семянкевіч знаходзіцца пад следствам за махінацыі з жыллём).

Карупцыянеры сваёй злачыннай дзейнасцю падрываюць давер да дзяржаўнай улады. Ці зможа існуючая ўлада падужаць ёй жа створаную карупцыйную сістэму? Кандыдат эканамічных навук Пётр Мігурскі лічыць, што наўрад – стаўка на дзяржаўную ўласнасць, аграмадныя сродкі ў руках чыноўнікаў, адсутнасць палітычнай спаборнасці, залежныя суды і сродкі масавай інфармацыі – усё гэта працуе на беспакаранасць чыноўнікаў.

Іншыя дакладчыкі – Рыгор Кастусёў, Мікалай Гердзій і Андрэй Юркоў – таксама выказалі свае меркаванні наконт неабходных захадаў па недапушчэнні карупцыйных злачынстваў у нашым грамадстве, прааналізавалі стан эканомікі сельскай гаспадаркі Магілёўскай вобласці і перспектывы яе развіцця ў 2015 годзе.

Удзельнікі круглага стала актыўна выказвалі свой пункт гледжання на тое, што патрэбна зрабіць для забеспячэння пастаяннага кантролю з боку грамадзянскай супольнасці за органамі ўлады ў рэгіёнах. Прысутныя на сустрэчы журналісты рэгіянальных маланакладных выданняў адзначылі, што матэрыялы на тэмы карупцыі, якія друкуе незалежнае прэса, заўсёды цікавыя чытачам, бо раённыя дзяржаўныя СМІ звычайна гэту тэму замоўчваюць.

Наступны круглы стол, прысвечаны праблемам карупцыі і рэфармавання сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у Магілёўскай вобласці, удзельнікі сустрэчы дамовіліся правесці вясной 2015 года.

***Барыс Вырвіч***

### Анекдот дня

Государство пошло навстречу. Никто не увернулся…

Фирме требуется главный бухгалтер. Работа – год через пять.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. E-mail: boris196608@bk.ru. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 14.01. 2015 г. у 19-00.